№ 24

*Люты 2005*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР






Паштоўкі выдавецтва газеты "БЕЛАРУС". Мастачка Валянціна Якімовіч



# УЗНАГАРОДЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Паважаныя сябры! Дзякуючы таму, што нарэшце выйшла кніжка "Узнагароды Рэспублікі Беларусь" Ісаева І. К., Мінск, Беларусь, 2004 г., мы нарэшце зможам задаволіць шматлікія просьбы нашых чытачоў і азнаёміць калекцыянераў з гэтымі адзнакамі. Са свайго боку мы дабавілі выявы тых ведамасных узнагарод, якіх няма ў згаданай вышэй кніжцы. Праўда, толькі тыя, выявы якіх мы маем.*




***Медаль "80 гадоў утварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі"***



***Медаль "80 гадоў утварэння Памежных войскаў Рэспублікі Беларусь"***



***Медаль "10 гадоў вываду Савецкіх войскаў з Аўганістана"***



***Медаль "80 гадоў утварэння Ўзброеных сілаў Рэспублікі Беларусь"***



**Медаль Героя Беларусі**

*Медаль Героя Беларусі ўяўляе сабой пяціканцовую зорку з гладкімі шматграннымі прамянямі звонку, якая ўпісваецца ў круг дыяметрам 33 мм. Адваротны бок медаля мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар медаля.*

*Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з калодкай прамавугольнай формы. Уздоўж асновы калодкі ідуць проразі, унутраная яе частка абцягнута муаравай стужкай чырвонага колеру з падоўжанай зялёнай палоскай з правага краю.*

*Медаль і калодка да яго вырабляюцца з золата 585-ай пробы, вагой 19 грамаў.*

Беларускі калекцыянер



*Медаль "80 гадоў Камітэту дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь"*



*Медаль "За працоўныя заслугі"*




**Медаль «За адвагу»**

*Медаль «За адвагу» мае форму круга дыяметрам 37 мм. На вонкавым баку медаля ў верхняй частцы адлюстраваны тры самалёты, ніжэй змешчаны ў два радкі надпіс «За адвагу», пад надпісам адлюстраваны танк. Усе адлюстраванні на медалі рэльефныя, надпіс уціснуты, пакрыты чырвонай эмаллю. Адваротны бок медаля мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар медаля.*

*Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай блакітнага колеру з дзвюма падоўжанымі палоскамі сіняга колеру па краях.*

*Медаль вырабляецца з серабра.*



**Медаль «За адзнаку ў ахове грамадскага парадку»**

*Медаль «За адзнаку ў ахове грамадскага парадку» мае форму круга дыяметрам 33 мм. На вонкавым баку медаля па крузе размешчаны надпіс «За адзнаку ў ахове грамадскага парадку», у цэнтры на фоне мяча адлюстраваны трохвугольны шчыт, абрамлены лаўровымі галінкамі, на шчыце — выява Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь.*

*У ніжняй частцы медаля пад лаўровымі галінкамі і мячом з правага і левага бакоў адлюстравана стужка, якая ўецца. На адваротным баку медаля размешчана пяціканцовая зорка на якой заглыбленыя промні разыходзяцца з цэнтра і акружаны вянком з лаўровага лісця.*



*Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай блакітнага колеру з трыма падоўжанымі палоскамі чырвонага колеру пасярэдзіне.*

*Медаль вырабляецца з тампака з серабрэннем.*



## Медаль «За адзнаку ў ахове дзяржаўнай граніцы»

*Медаль «За адзнаку ў ахове дзяржаўнай граніцы» мае форму круга дыяметрам 33 мм. На вонкавым баку медаля размешчана рэльефнае адлюстраванне памежніка і памежнага слупа з Дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь, па кругу — надпіс «За адзнаку ў ахове дзяржаўнай граніцы».*

*На адваротным баку медаля размешчана пяціканцовая зорка ў выглядзе заглыбленых прамянёў, якія сыходзяцца да цэнтра, у абрамленні вянка з лаўровага лісця.*



*Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяціvугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай зялёнага колеру з падоўжанай палоскай чырвонага колеру з правага боку. Па краях стужка акантавана вузкімі чырвонымі палоскамі.*

*Медаль вырабляецца з тампака з серабрэннем.*



## Медаль «За адзнаку ў воінскай службе»

*Медаль «За адзнаку ў воінскай службе» мае форму круга дыяметрам 33 мм. На вонкавым баку медаля па крузе размешчаны надпіс «За адзнаку ў воінскай службе», у ніжняй часткы — галінкі дуба, у цэнтры — выява пяціканцовай зоркі, на фоне якой адлюстраваны меч. Ніжнюю частку зоркі і мяча накрывае паўкругам стужка з чырвонай і зялёнай эмалі.*

*На адваротным баку медаля размешчана пяціканцовая зорка ў выглядзе заглыбленых прамянёў, якія сыходзяцца да цэнтра, у абрамленні вянка з лаўровага лісця.*



*Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай блакітнага колеру з падоўжанай палоскай залацістага колеру пасярэдзіне і па адной падоўжанай палосцы чырвонага колеру па краях.*

*Медаль вырабляецца з тампака з серабрэннем.*



## Медаль «За бездакорную службу» I, II, III ступені

*Медаль «За бездакорную службу» мае форму круга дыяметрам 33 мм. На вонкавым баку размешчана рэльефная выява Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, на якім знаходзіцца надпіс «За бездакорную службу», у ніжняй частцы — вянок з дубовага і лаўровага лісця, на стужцы вянка абазначаны ступені медаля: I, II, III. На адваротным баку медаля размешчаны трохвугольны прОменепадобны шчыт з зоркай.*

*Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай зялёнага колеру. Стужка пасярэдзіне мае чырвоныя палоскі, колькасць якіх адпавядае ступені медаля.*

*Медаль I ступені вырабляецца з тампака з пазалотай і каляровымі эмалямі, II ступені — з тампака з серабрэннем і частковай пазалотай з каляровымі эмалямі, III ступені — з тампака з серабрэннем і каляровымі эмалямі.*












**Медаль «За працоўныя заслугі»**

*Медаль «За працоўныя заслугі» мае форму круга дыяметрам 33 мм. На вонкавым баку медаля размешчана рэльефная выява элементаў, якія сімвалізуюць працу людзей, занятых у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, навуцы. На адваротным баку медаля размешчаны выявы шасцярні і колаcа. Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай шэрага колеру з падоўжанай палоскай цёмнашэрага колеру пасярэдзіне і па адной палосцы чырвонага колеру па краях.*

*Медаль выраблясцца з тампака з серабрэннем.*




**Медаль Францыска Скарыны**

*Медаль Францыска Скарыны мае форму круга дыяметрам 32 мм. На вонкавым баку медаля размешчаны рэльефная выява Францыска Скарыны і надпіс «Францыск Скарына». На адваротным баку медаля размешчаны знак «сігнет».*

*Медаль пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з прамавугольнай калодкай. Уздоўж асновы калодкі ідуць проразі, унутраная яе частка пакрыта муаравай стужкай зялёнага колеру, пасярэдзіне стужкі — жоўтая паласа нацыянальнага арнаменту, стужка абрамлена пазалочанай ніткай.*

*Медаль выраблясцца з тампака.*

**Ордэн Айчыны I, II, III ступені**

*Ордэн Айчыны ўяўляе сабой знак, выкананы ў форме двух чатырохвугольнікаў, якія накладаюцца адзін на другі і ўтвараюць васьміканцовую зорку дыяметрам 44 мм. У цэнтры зоркі знаходзіцца круг дыяметрам 24 мм, у якім размешчана выява Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, абрамленага вянком з дубовага і лаўровага лісця. У верхняй частцы круга на чырвоным эмалевым фоне размешчаны надпіс «Айчына», у ніжняй частцы абазначаны ступені ордэна: I, II, III. Адваротны бок ордэна мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар ордэна.*





*Ордэн пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай чырвонага колеру з падоўжанай зялёнай палоскай пасярэдзіне для ордэна I ступені, дзвюма зялёнымі падоўжанымі палоскамі па краях — для ордэна II ступені, дзвюма зялёнымі падоўжанымі палоскамі па краях і адной зялёнай падоўжанай палоскай пасярэдзіне — для ордэна III ступені. Ордэн Айчыны I ступені выраблясцца з серабра з пазалотай, II ступені — з серабра з частковай пазалотай, I I I ступені — з серабра.*



**Ордэн Воінскай Славы**

*Ордэн Воінскай Славы ўяўляе сабой знак, у аснове якога пяціканцовая зорка, што накладаецца на промненепадобны пяцівугольнік. Кампазіцыя ўяўляе дзесяціканцовую зорку дыяметрам 44 мм.*

*У цэнтры зоркі размешчаны круг дыяметрам 23 мм, у крузе — рэльефная выява двух воінаў, якія ўвасабляюць сухапутныя і паветраныя сілы. Круг абрамлены вянком з дубовага і лаўровага лісця, у верхняй частцы круга на зялёным эмалевым фоне размешчаны надпіс «Воінская Слава». Адваротны бок ордэна мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар ордэна.*

*Ордэн пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай чырвонага колеру з падоўжанай зялёнай палоскай пасярэдзіне, трыма чорнымі і дзвюма жоўтымі палоскамі з правага боку.*

*Ордэн Воінскай Славы вырабляецца з серабра з пазалотай.*



**Ордэн Дружбы народаў**

*Ордэн Дружбы народаў уяўляе сабой знак, выкананы ў форме пяці- і дзесяціканцовай зорак. Пяціканцовая зорка, пакрытая чырвонай эмаллю і абрамленая па контуры выпуклымі кроплямі, накладаецца на дзесяціканцовую дыяметрам 59 мм, якая ўтворана пяццю залацістымі пірамідальнымі гранямі і пяццю залацістымі пучкамі разыходных промняў.*

*У цэнтры ордэна размешчана накладная выява зямнога шара з пяццю кантынентамі, асобныя дэталі якога пакрыты сіняй эмаллю. Зямны шар аблямаваны абадком з выявай рукапацісканняў. Адваротны бок ордэна мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар ордэна.*

*Ордэн пры дапамозе вушка і плоскага кольца, да якога прымацаваны прамавугольны знак памерам 14 х 14 мм, што ўяўляе ў мініяцюры Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь, злучаецца з муаравай стужкай сіняга колеру шырынёй 44 мм.*

*Ордэн Дружбы народаў вырабляецца са срэбра з пазалотай.*






**Ордэн «За асабістую мужнасць»**

*Ордэн «За асабістую мужнасць» уяўляе сабой пазалочаны, пакрыты чырвонай эмаллю крыж на фоне пазалочанай чатырохграннай плоскасці з адлюстраваннем рабрыстых прамянёў.*

*У цэнтры крыжа размешчаны круг дыяметрам 22 мм, пакрыты белай эмаллю, з надпісам «За асабістую мужнасць» і адлюстраваннем лаўровых галінак. У цэнтры круга — залацістая пяціканцовая зорачка на цёмна-чырвоным фоне. Круг накладзены на пазалочаны меч. Адваротны бок ордэна мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар ордэна.*

*Ордэн пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай залацістага колеру з падоўжнай бардовай палоскай пасярэдзіне. Па краях стужка мае па адной падоўжанай палосцы: з левага боку — белую, з правага — бардовую.*

*Ордэн «За асабістую мужнасць» вырабляецца з серабра з пазалотай.*

## Ордэн «За службу Радзіме» I, II, III ступені

*Ордэн «За службу Радзіме» I ступені ўяўляе сабой выпуклую васьміканцовую зорку. Канцы зоркі, якія выканаты ў выглядзе пазалочаных прамянёў, што разыходзяцца ад цэнтра, чаргуюцца з гладкімі канцамі, пакрытымі блакітнай эмаллю і абмежаванымі па контуру пазалочаным абадком. На гладкіх канцах зоркі адлюстраваны пазалочаныя верхняя і ніжняя часткі дзвюх скрыжаваных ракет.*
*У цэнтральнай частцы ордэна на вянку з дубовага лісця размешчана пазалочаная пяціканцовая зорачка, абрамленая пояском, у ніжняй частцы якога знаходзіцца пазалочаная лаўровая галінка, у верхняй частцы, пакрытай белай эмаллю, — надпіс «За службу Радзіме». Абадкі пояска пазалочаныя. Зорачка і поясок накладзены на сярэбраныя аксідзіраваныя крылы і меч.*
*У ордэна «За службу Радзіме» II ступені прамяністыя канцы зоркі сярэбраныя, верхняя і ніжняя часткі скрыжаваных ракет, а таксама абадкі гладкіх канцоў зоркі пазалочаныя, зорачка ў цэнтры пазалочаная.*
*Ордэн «За службу Радзіме» III ступені вырабляецца з серабра без пазалоты.*
*Ордэн «За службу Радзіме» трох ступеняў вырабляецца з серабра. Размеры ордэна паміж процілеглымі гладкімі канцамі 65 мм, паміж прамяністымі — 58 мм. Адваротны бок ордэна мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар ордэна. На адваротным баку ордэн мае наразны штыфт з гайкай для мацавання ордэна да адзення.*
*Стужка да ордэна муаравая блакітнага колеру з жоўтымі падоўжанымі палоскамі пасярэдзіне: для I ступені — адна палоска, для II ступені — дзве, для III ступені — тры палоскі.*



## Ордэн Маці

*Ордэн Маці ўяўляе сабой дзевяціканцовую рэльефную зорку, якая ўпісваецца ў круг дыяметрам 40 мм. У цэнтры — рэльефная выява жанчыны і дзіцяці ў промнях сонца, абрамленая вянком з дубовага і лаўровага лісця, у ніжняй частцы вянка — бела-блакітны бант з эмалі. Адваротны бок ордэна мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар ордэна. Ордэн пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай блакітнага колеру з падоўжанай сіняй палоскай пасярэдзіне. Ордэн вырабляецца з тампака з серабрэннем і пазалотай.*



## Ордэн Пашаны

*Ордэн Пашаны мае форму акруглага пазалочанага васьмігранніка, на які накладаецца чатырохканцовая сярэбраная зорка з рэльефнай выявай мужчыны і жанчыны ў цэнтры, якія трымаюць Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь і сноп пшаніцы. Сцяг пакрыты эмаллю чырвонага, зялёнага і белага колераў. У ніжняй частцы ордэна — блакітная эмалевая стужка, якая падтрымлівае лаўровыя і дубовыя галінкі, што абрамляюць ордэн.*
*Вышыня ордэна — 50 мм, шырыня — 46 мм. Адваротны бок ордэна мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар ордэна. Ордэн пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з пяцівугольнай калодкай, абцягнутай муаравай стужкай жоўтага колеру з адной падоўжанай палоскай зялёнага колеру пасярэдзіне і па адной падоўжанай палосцы чырвонага колеру па краях. Ордэн вырабляецца з серабра з пазалотай.*



**Юбілейны медаль**
**«60 год вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў»**





*Юбілейны медаль «60 год вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» мае форму круга дыяметрам 33 мм. На вонкавым баку медаля адлюстравана скульптурная кампазіцыя мемарыяльнага комплексу «Курган Славы» у абрамленні паўвянка з лаўровых і дубовых лісцяў. В верхняй частцы юбілейнага медаля размешчаецца лічба «1944» і «2004», у ніжняй — выява ордэна Айчыннай вайны.*
*На адваротным баку юбілейнга медаля размешчаны надпіс «60 год вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў», над надпісам — пяцікутная зорка на складках ленты з лічбамі «1944» і «2004».*
*Усе выявы і надпісы на медалі выпуклыя. Па акружнасці яна мае борцік.*
*Юбілейны медаль замацоўваецца на адзенні пры дапамозе пяцікутнай колодкі, абцянутай састаўной муаровай лентай, якая мае колеры лентаў медалёў «За перамогу над Германіяй ў Вялікай Айчыннай вайне 1941— 1945 гг.» і «Партызану Айчыннай вайны» I ступені.*
*Юбілейны медаль «60 год вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» зроблена з латуні залацістага колеру.*



**Ордэн Францыска Скарыны**
*Ордэн Францыска Скарыны ўяўляе сабой чатырохканцовую зорку з кругам, якая заключана ў авал памерам па вертыкалі 43 мм, па гарызанталі — 39 мм. У цэнтры круга — рэльефная выява Францыска Скарыны, у ніжняй частцы — лаўровая галінка. Авал абрамлены бела-блакітнай эмалевай стужкай з надпісам «Францыск Георгій Скарына». Адваротны бок ордэна мае гладкую паверхню, у цэнтры знаходзіцца нумар ордэна.*
*Ордэн пры дапамозе вушка і кольца злучаецца з калодкай сямівугольнай формы, у ніжняй частцы якой размешчаны знак «сігнет». Калодка абцягнута муаравай стужкай цёмна-фіялетавага колеру.*
*Ордэн вырабляецца з серабра з пазалотай.*

**Беларускі калекцыянер**

## *Юбілейны выпуск*

Барысаўская фабрыка запалак да свайго 100 – годдзя, выпусціла сувенірны набор запалак. Набор складаецца з 9 каробак, кожная з якіх мае сваю адметную этыкетку. На гэтых этыкетках змешчаны выявы: чыгуначнага вакзала, царквы, касцёла, дома культуры, помніка П. Раку, лесаскладу, каробачнага цэху, набівачнага цэху і цеху “Арэнка”. Беларускія філуменісты атрымалі выдатны падарунак у свае калекцыі.





Спичечная фабрика им. С. М. Кирова

# З гісторыі гарадзенскага паштовага штэмпеля

На сённяшні дзень вядомы паштовы штэмпель Гарадзенскай паштовай станцыі, які адносіцца да канца XVIII стагоддзя (1799г.). Ён мае форму круга, ў якім напісана назва горада (паштовай станцыі). Акрамя геаграфічнай назвы, штэмпелі тага часу (у Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім) неслі ў сабе сімвалы пошты – паштовы ражок і каралеўскую карону, бо пошта ў тыя часы была каралеўскай установай. Цікавы такі факт – у розных літаратурных крыніцах – працах па гісторыі пошты, каталогах – гэты вядомы паштовы штэмпель Гарадзенскай паштовай станцыі адлюстроўваецца па рознаму – і сама каралеўская карона не аднолькавая, і адрозніваецца выява паштовага ражка. Магчыма, гэта можна растлумачыць невыразным адбіткам штэмпеля на арыгінале (малюнак №1 – а,б,в).

**Малюнак №1**




Напрыканцы XVIII пачатку XIX стагоддзяў расійская пошта пачала ўводзіць у абарачэнне спецыяльныя штэмпелі кляймення лістоў (так званыя дамарачныя штэмпелі). Яны адрозніваюцца вялікай разнастайнасцю формаў, памераў, шрыфтоў, надпісаў. Пакуль вядома шэсць разнастайнасцяў штэмпеляў дамарачнага перыяду гарадзенскай пошты.

Прыблізна да 1830 году штэмпелі кляймення лістоў гарадзенскай пошты неслі мала інфармацыі. Штэмпель паведамляў толькі геаграфічнае месца адпраўкі ліста (малюнкі 2,3,4).

ГРОДНО

м. 2




м. 3




м. 4

"Гродно" – у рамцы ці без яе, без даты. Але ўжо ў 30-х гадах XIX стагоддзя побач з гэтым штэмпелем паштовыя супрацоўнікі часам праставілялі ад рукі дату адпраўлення карэспандэнцыі. Пасля 30-х гадоў XIX стагоддзя ў штэмпелі кляймення былі ўведзены каляндарныя дадзеныя. Напрыклад: "Гродно, 18 мая 1835", «Изъ Гродна 24 декабря 1857 года». Прычым набор літар і лічбаў у такім штэмпелі мог быць самым разнастайным (малюнкі 5,6,7 і 7а).

Гродно 18
МАЯ 1835

м. 5

ИЗЪ ГРОДНА
24ДЕКАБРЯ 1857 ГОДА

м. 6

ИЗЪ ГРОДНА ДЕКАБ 2
1857 Г

м. 7

ИЗЪ ГРОДНА 8 ОКТЯ
БРЯ 1857 ГОДА

м. 7а

Цыркулярам Галоўнай управы пошт ад 31 траўня і 7 жніўня 1857 году былі ўведзены замест штэмпеляў дамарачнага перыяду круглыя нумарныя штэмпелі з трох радкоў кропак і нумароў у цэнтры – так званыя кропачныя штэмпелі. На гэтых штэмпелях не было назвы горада і даты. Круглыя кропачныя штэмпелі прызначаліся для паштовых кантор губернскіх гарадоў. Такі штэмпель з нумарам 11 мела Гараодзенская паштовая кантора (малюнак 8). Кропачныя штэмпелі былі ананімныя, што адмоўна адбівалася на працы пошты. Таму ў 60-70х гадах XIX стагоддзя ў Расіі былі ўведзены новыя штэмпелі круглай формы для гашэння марак на карэспандэнцыі (малюнак 9 а,б,в). Да канца XIX стагоддзя гэтыя штэмпелі не мянялі сваёй формы.




м. 8




м. 9а




м. 9б




м. 9в

У пачатку XX стагоддзя расійская пошта ўвяла новыя круглыя штэмпелі з адрознівальнымі літарнымі індэксамі. Гарадзенская паштовая кантора мела для эксплуатацыі штэмпелі з разнастайным напісаннем назвы горада – "Гродно" і "Гродна" (малюнак 10а - з). Свой імянны паштовы штэмпель мела паштовае аддзяленне пры гарадзенскім вакзале (малюнак 11). Цікавы штэмпель выкарыстоўваўся гарадзенскай поштай у аддзеле дастаўкі карэспандэнцыі ў 1908 годзе. Гэты штэмпель можна назваць кантрольным, так як ён ставіўся на карэспандэнцыю ў пэўны час (раніцай) пры перадачы яе паштару і дазваляў кантраляваць дастаўку лістоў адрасату (малюнак 12).



м. 10а



м. 10б



м. 10в



м. 10г



м. 10д



м. 10е



м. 10ж



м. 10з



м. 11



м. 12

У часы першай сусветнай вайны вайсковая карэспандэнцыя перасылалася бясплатна, калі на карэспандэнцыі была пячатка вайсковай часткі. У Гродна ў 1915 годзе размяшчалася крэпасная аўтамабільная каманда. "Печать для пакетов" гэтай каманды з надпісам "Гродненская крепостная автомобильная команда" была прастаўлена на вайсковай карэспандэнцыі, высланай з Горадні ў 1915 годзе (малюнак 13). Ужо ў 1914 годзе на Гродзенскім паштампце выкарыстоўвалася штэмпелевальная машына зролікавым штэмпелем. Гэты штэмпель бачны на казённай карэспандэнцыі, накіраванай на імя начальніка Гарадзенскай паштовай акругі (малюнак 14). Цікавасць для калекцыянераў уяўляюць і адбіткі штэмпеляў уваходнай карэспандэнцыі ва ўпраўленне Гарадзенскай паштова-тэлеграфнай акругі (малюнак 14а). На малюнках 15 (а-д) паказаны паштовыя і вайсковыя штэмпелі, якія выкарыстоўваліся ў Горадні нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй у перыяд са студзеня 1916 па снежань 1918 году. Свае штэмпелі выкарыстоўвала і літоўская адміністрацыя ў 1919 годзе, на гэтых штэмпелях не было каляндарнай даты (малюнак 16). У польскі перыяд з 1921 па 1939 год пошта ў Горадні выкарыстоўвала некалькі відаў штэмпеляў. У 20-я гады гэта былі штэмпелі без так званага "мосціка" (малюнкі 17,17а). У 30-я гады паштовы штэмпель Горадні меў "мосцік", а таксама надпіс "Гродна 1" (малюнак 18 – а,б) і "Гродна 2" малюнак (19). Адзінка абазначала гарадское аддзяленне, а двойка – аддзел перавозкі пошты па чыгунцы. На малюнку 20 паказаны штэмпель для заказных лістоў.



м. 13



м. 14



м. 14а



м. 15



м. 15а

GRODNO
POLIZEIBEZIRK IV
м. 15б



м. 15в



м. 15г



м. 15д



м. 16



м. 17



м. 17а



м. 18




м. 18а




м. 18б




м. 19




м. 20




м. 21




м. 22




м. 23




м. 24




м. 24а




м. 25

У 1939 годзе пошта ў горадзе пачала працаваць праз некалькі дзён пасля ўступлення Чырвонай Арміі. Напрыканцы 1939 года гарадзенскія паштары, як і ўсе паштары Заходняй Беларусі, выкарыстоўвалі для гашэння карэспандэнцыі польскія каляндарныя штэмпелі. Толькі ў пачатку 1940 года ў спецыяльных майстэрнях Маскоўскага паштамта былі выраблены новыя паштовыя штэмпелі з надпісам "СССР. Гродна. БССР" (рыс.21) – для гарадской пошты і "СССР. Гродна 2. БССР" для аддзялення перавозкі пошты па чыгуначнай дарозе.

Пасля акупацыі горада ў 1941 годзе нямецкія ўлады ўключылі Горадню ў склад генерал-губернатарства ў акругу Беласток, перайменаваўшы горад у Гартен. Нямецкая пошта ў тыя гады ўжывала некалькі паштовых штэмпеляў. Былі выкарыстаны застаўшыеся з канца 30-х гадоў польскія каляндарныя штэмпелі, з іх прыбралі польскія надпісы – назву горада і распазнавальныя індэксы, быў пакінуты толькі каляндар. Побач з такім "нямым" штэмпелем ставіўся адбітак гумавага штэмпеля з нямецкім найменнем гораду "Garten" (Гартен) (малюнак 22). Выкарыстоўваліся таксама ў 1941 годзе савецкія штэмпелі. З іх былі прыбраны словы "СССР" і "БССР" і пяцікутнікавыя зоркі (малюнак 23). У далейшыя гады акупацыі нямецкая паштовая адміністрацыя ў Горадні выкарыстоўвала ўласныя штэмпелі, але са старым найменнем гораду – "Гродна" (акруга Беласток) – малюнак 24 – 24а. Старую назву горада выкарыстоўвалі і на штэмпелях паштовых вагонаў у 1942 годзе. "Беласток - Гродна Поезд 2924" і "Кенігзберг (Пр) – Гродна. Поезд 0987" (малюнак 25, 25а).



м. 25а

З верасня 1941 года ў Горадні пачала працаваць нямецкая службовая пошта, якая выкарыстоўвала штэмпелі з надпісам "Гартен. Немецкая службовая почта. Остланд" (малюнак 24а).

Пасля вызвалення Горадні ад фашысцкіх захопнікаў ў 1944 годзе пачалася новая старонка ў гісторыі гарадзенскай пошты і паштовага штэмпеля.

*Леў Коласаў, г. Мінск*

# З калекцыі М. Паўловіча

Арыгінальны канверт рэдакцыі для рассылкі часопіса "Беларуская школа ў Латвіі" за 1934 г. Памеры 17,4 x 24,5 мм. Папера жаўтавата – шэрая. Тэкст і малюнак чорны, друкарскі. Марка стандартная, светла – чырвоная. Над маркай латышскі тэкст "друкаваная прадукцыя". Рукапісны тэкст: Эдв. Вайвадзішу спадару II Педруйская, 6 кл. бел. пачатковая школа. Індра.



# Знаходкі з Цырына

Цырын упершыню ўпамінаецца ў дакументах пад 1428 годам. Што вёска старадаўняя, можна заключыць і па вялікай колькасці могілак. Іх аж 6, дзейнічаюць толькі адны. У дадатак да гэтага па мясцовай рэчцы Сэрвачы некалькі гадоў стаяў фронт першай сусветнай вайны. У Цырыне рускія, а за рэчкай, у недалёкіх Туганавічах і Падгайне, немцы. Косці загінуўшых салдат і другія напаміны аб мінулых войнах можна знайсці і сёння. Трапляюцца на былых пазіцыях наканечнікі стрэл і крамянёвыя вырабы нашых далёкіх продкаў. Але гаворка пойдзе не пра гэта, хоць гэта таксама вельмі цікава.

Працаваў я калісьці даўно у мясцовым калгасе на ўборцы бульбы. Праца цяжкая і плацілі мала, але мне падабалася тым, што заўсёды можна нешта знайсці. Часта такія знаходкі былі небяспечнымі: снарады, гранаты і патроны пападалі часта. На гэты раз пашанцавала. У нямецкую бульбакапалку папаў асабісты апазнавальны жэтон салдата царскай арміі. Так я мяркую.

У газеце "Звязда" ад 16 лютага 2000 году Сяргей Расолька піша, што салдаты царскай арміі іх у першую сусветную вайну не мелі. Думаю, што ён памыляецца. Проста ніхто іх не шукаў. Знаходка мяне зацікавіла. Пасля нядоўгіх роспытаў у мясцовых аматараў даўніны, я выменяў яшчэ 2 падобныя жэтоны. Абставіны гэтых знаходак высветліць не ўдалося. Адзін толькі хлопец сказаў, што знайшоў гэтую "манету" у бацькі сярод рознага хлама.

Усе тры жэтоны аднолькавага памеру. На кружках бляхі таўшчынёю трохі больш за 1 мм. Метал – цынк. Літары і лічбы выбіты аднолькавымі пуансонамі. У кожным па дзве дзірачкі, відаць для шнурка. Размер дзірак неаднолькавы. Тэкст толькі на адным баку:

Відаць, што гэта салдаты розных рот, але з аднаго стралковага

| 1) | 2) | 3) |
|---|---|---|
| Яков.Афан. | ИВАН.ТАР. | ШАГИВАЛІЙ |
| ТРУШКІНЪ | РАЗИНЬКОВ. | ШАТМАРДАНОВ. |
| СТР.5Р.26 С.С.П | СТР.4Р.26 С.С.П | СТР.5Р. 26 С.С.П. |
| СМОЛ.Г | ВОРОНЕЖ.Г. | КАЗАН.Г. |
| РОСЛ. У. | КАРТОЯП. У. | МІШАД.У. |



палка. Родам яны з Смаленскай, Варонежскай і Казанскай губерній. Ніжэй тэкст відаць азначае уезды. Рослаўскі і г.д.

За польскім часам у Цырыне была гміна (сельсавет па сучаснаму). Для ўліку сабак быў выпушчаны спецыяльны жэтон (аднабаковы). Адчаканены ён быў у паватовым Навагрудку відаць для ўсяго павета. А мясцовыя гміны ўжо самі набівалі пуансонамі тэкст і нумар. Метал жоўтага колеру. Латунь? Маю толькі адзінкавы экзэмпляр. На жэтоне выпуклая галава сабакі з ашыйнікам на шыі. Сабак відаць было многа, калі браць пад увагу №227.

*М.Паўловіч*

Беларускі калекцыянер

# Пасвячаецца ў рабочыя

Сярод беларускіх памятных медалёў у асобны рад можна выдзеліць медалі, якія ўручалі маладым рабочым у іх першы працоўны дзень. У часы існавання БССР на буйных прамысловых прадпрыемствах існаваў цэлы рытуал пасвячэння моладзі ў рабочыя. Адным з элементаў гэтага рытуалу былі памятныя медалі, якія ўрачыста ўручалі нядаўнім выпускнікам прафесійна-тэхнічных вучылішч. Разгледзім некаторыя з іх, вядомыя аўтару. Паколькі мэтай гэтага артыкула з'яўляецца азнаямленне чытачоў "БК" і збіранне дадатковай інфармацыі пра такія медалі, то мы спынімся толькі на апісанні памераў і адлюстраванні гэтых медалёў.

Завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань, Аршанскі раён, зараз фірма "Лёс". Медаль дыяметрам 50 мм. Вядомыя яшчэ дзве формы.





*Мінскі завод імя У.І. Леніна дыяметр, 50 мм.*



*Мінскі трактарны завод, 65 мм.*

*Маладзечна 51 мм.*

Па каталогу А.Я. Процкага "Памятныя медалі Савецкай Беларусі" Мінск, 1972 г. вядома яшчэ 4 медалі па гэтай тэме.

1. 100 год з дня нараджэння У.І. Леніна – Пасвячаецца ў рабочыя 1970 г. Г.М. Арлоў. У верхняй частцы чатырохрадковы надпіс, ніжэй дата – "1970", па краю словы – "Посвящается в рабочие". Алюміній, траўленне, 50 мм. Маладзечна.

2. 50 год БССР - Пасвячаецца ў рабочыя, 1968 г., Г. М. Арлоў, алюміній, траўленне, 50 мм.

3. 50 год БССР - У гонар уступлення ў сям'ю рабочых 1968 г., У. А. Арлоў. Правы бок уверсе ў тры радкі - "50 лет БССР", у цэнтры - галінка дуба і дата "1968". Кругавы надпіс. Алюміній, 48 мм., Брэсцкі завод электравымяральных прыбораў.

4. Пасвячаецца ў рабочыя, 1966 і 1968 гг., Г. М. Арлоў. Кругавынадпіс. Алюміній анадзіраваны, траўленне, 50 мм. Маладзечна

Аўтар будзе ўдзячны за магчымасць набыць гэтыя і іншыя медалі па тэме: "Пасвячаецца ў рабочыя".

*Алесь Сярожкін*

# Калекцыянер беларускамоўных этыкетак

Андрэй Важэйка жыве ў Слоніме, працуе ў мясцовай узбуйненай друкарні. Ужо гадоў пяць ён калекцыянуе беларускамоўныя этыкеткі ад піва, напояў, віна, гарэлкі, лікёраў і г.д. Быў час, калі яго вялікая калекцыя хутка папаўнялася, таму што ў гандлі на бутэльках выпускаліся толькі беларускія этыкеткі. Прыгожыя назвы, прафесійнае мастацкае аздабленне на іх так і прыцягвалі пакупнікоў: піва “Шляхецкае”, лікёр “Журавінавы”, піва “Старажытнае”, гарэлка “Беларуская”, гарэлка “Гародня”, напітак “Налібоцкая пушча”, напітак “Спадчына”, напітак “Вячоркі”, віно “Белая вежа”, мінеральная вада “Ганцаўчанка”, піва “Былiннае”, піва “Світанак” і сотні іншых назваў.

На многіх этыкетках размяшчаліся гербы беларускіх гарадоў, дзе выраблялiся напоі. На некаторых – друкаваўся нават герб “Пагоня”.

Калі да ўлады ў Беларусі прыйшоў Лукашэнка, у дзяржаве пачалася нахабная русіфікацыя. Яна хутка адбілася і на выпуску этыкетак, якія замест цудоўных беларускіх сталі рускамоўнымі.

А то яшчэ і горш: на этыкетках усё напісана па-руску, а назоў напою па-беларуску, прытым з рускай літарай “и” . Напрыклад “Криница”, “Скориновское” “Скарынаўскае” і г.д.

Тым не менш, выпуск беларускамоўных этыкетак – гэта своеасаблівая наша гісторыя. Гісторыя мастацтва, мовы, прамысловасці. І гэтую гісторыю стварае ў Слоніме Андрэй Важэйка, які па-ранейшаму калекцыянуе толькі беларускамоўныя этыкеткі. Некаторыя з іх прапаную чытачам “Беларускага калекцыянера”.

***Сяргей Чыгрын***







































# Металічныя маркі вайсковых частак Расейскай арміі XIX-XX стагоддзя, якія маюць дачыненні да Беларусі

Калекцыянерам вядома вялікая колькасць плацёжных металічных марак, шырока распаўсюджаных напрыканцы XIX – пачатку XX стагоддзя падчас грашовых разлікаў у сталовых і буфетах гарнізонных і палкавых афіцэрскіх сходаў Расейскай арміі. Статут афіцэрскіх сходаў Расейскай арміі ад 12 катрычніка 1874 года дазваляў афіцэрскаму сходу дзеля зручнасці разлікаў паміж сябрамі сходу і буфетам мець такія металічныя маркі. За межамі сходу плацёжныя маркі не мелі ніякай каштоўнасці: іх абарочванне па-за сходам забаранялася Статутам. У некаторых выпадках металічныя маркі ўжываліся і ў салдацкіх буфетах.

Сярод усёй разнастайнасці плацёжных металічных марак ў Расейскай арміі ў асобную групу магчыма вылучыць маркі, якія маюць непасрэднае дачыненне да Беларусі. Калекцыянерам вядомыя наступныя з іх.

1. Металічная марка наміналам у 1 капейку 4-га грэнадзёрскага Несвіжскага палка /глядзіце малюнак 1/.

Гэты прамавугольны знак з металу светла-жоўтага колеру памерамі 25х22 мм са скошанымі вугламі. На вонкавым баку надпіс: "4-го НЕСВИЖСКАГО" у цэнтры "ПОЛКА". Унізе – зорка. На адваротным баку ў васьмівугольнай разетачнай рамцы намінал маркі: "1 коп.". Полк быў сфармаваны ў 1833 годзе. Дыслакаваўся ў Маскве. Назва "НЕСВИЖСКИЙ" была прысвоеная ў 1857 годзе.



м. 1

2. Металічная марка наміналам у 10 /капеек - ?/ Першай рэзервовай артылерыйскай брыгады / глядзіце малюнак 2/.

Круглы аднабаковы знак з металу светла-жоўтага колеру памерам ў дыяметры 24 мм. У цэнтры вонкавага боку намінал "10", над наміналам лічба "1", справа ад намінала літара "Р", унізе літара "А", злева літара "Б". Адваротны бок без надпісаў і выяваў.

Першая рэзервовая артылерыйская брыгада дыслакавалася ў горадзе Двінск,Віцебскай губерніі, сёння горад Даўгаўпілс, Латвія.



м. 2

3. Металічныя маркі Брэст – Літоўскага крэпастнога ваеннага сходу (глядзіце малюнкі 3,4).

- марка наміналам у 20 / капеек - ?/. Круглы знак з медзі дыяметрам 21 мм. На вонкавым баку ў круглай падвоенай рамцы з кропак кругавы надпіс: уверсе:



м. 3

"БР.ЛИТ.КР.В." унізе "СОБРАНИЕ". Верхні і ніжні надпісы раздзелены справа і злева кропкамі. У цэнтры паглыблены надчакан "225", магчыма, гэткімі надчаканкамі знакі улічваліся. На адваротным баку намінал "20".



м. 4

Вядомы намінал маркі "20" без надчакана.

Марка наміналам у 50 /капеек - ?/. Круглы знак з медзі дыяметрам 27 мм. Аналагічны наміналу ў "20", але на вонкавым баку паглыблены надчакан "24".

Гарнізон Брэст-Літоўскай крэпасці складаўся са штаба крэпасці, 1-га, 2-га, 3-га Брэст-Літоўскіх крэпасных батальёнаў, 3-й вылазачнай брыгады, крэпасной артылерыі і крэпасной сапёрнай роты. Напрыканцы XIX стагоддзя крэпасныя батальёны былі пераўтвораны ў палкі.

4. Маркі Брэст-Літоўскага вайсковага сходу (глядзіце малюнкі 5,6,7).

Акрамя крэпаснога гарнізону, існаваў вайсковы гарнізон г. Брэст-Літоўска, які меў свой вайсковы сход. У склад гарнізону уваходзілі штаб 19-га армейскага корпусу, штаб 2-й пяхотнай дывізіі і тры палкі, якія ўваходзілі ў гэтую дывізію: 6-ы пяхотны Лібаўскі полк, 7-ы пяхотны Рэвельскі полк, 8-ы пяхотны Эстландскі полк.




- Марка наміналам у 1 /капейку - ?/. Круглы знак з металу светла-жоўтага колеру дыяметрам 26 мм. на вонкавым баку ў кругавой суцэльнай рамцы кругавы надпіс: уверсе "МАРКА", унізе "Б.Л.В.С." Верхні і ніжні надпісы справа і злева падзелены зоркамі, у цэнтры знаку – разетка. На адваротным баку намінал: "1".

- Марка наміналам у 30 /капеек - ?/. Круглы знак з металу светла-жоўтага колеру дыяметрам 23 мм. Аналагічны знакам наміналам ў 1 і 5.

5. Маркі салдацкай лаўкі 6-га Лібаўскага пяхотнага палка (глядзіце малюнкі 8, 9).

6-ты Лібаўскі пяхотны полк 2-й пяхотнай дывізіі, які ўваходзіў у склад Брэст-Літоўскага ваеннага гарнізону (па дадзеных 1899г.) меў салдацкую сталовую, ў якой ўжываліся металічныя плацёжныя маркі.




- Марка наміналам ў 20 /капеек - ?/. Круглы знак з металу светла-жоўтага колеру дыяметрам 25 мм. на вонкавым баку ў кругавой суцэльнай рамцы кругавы надпіс: уверсе "СОЛДАТСКАЯ", унізе "6-го ЛИБАВСКАГО ПОЛ.", у цэнтры гарызантальны надпіс "ЛАВКА". На адваротным баку па цэнтры вялікімі лічбамі намінал "20".

- Марка наміналам у 50 /капеек - ?/. Круглы знак з металу светла-жоўтага колеру дыяметрам 25 мм. Аналагічны наміналу 20.

6. Металічныя маркі 27 пяхотнага Віцебскага палка (глядзіце малюнакі 10)

- Марка наміналам ў 1 /капейку - ?/. Медны знак дыяметрам 18,5 мм. На вонкавым баку ўверсе кругавы надпіс "ОФИЦЕРСКОЕ СОБРАНИЕ", ніжэй у тры радкі "27-го пех.", "ВИТЕБСКАГО", "ПОЛКА",унізе – зорачка. На адваротным баку ў кругавой суцэльнай рамцы намінал "1".

- Марка наміналам у 2 /капейкі - ?/. Медны знак дыяметрам 19 мм., аналагічны вышэй апісаным экзэмплярам.

Вядомы дадзены намінал з надчаканам на адваротным баку "ОС". Гэта адзначае А.П. Шышкін у сваёй працы (гл. №1 у спісе літаратуры). Ён мяркуе, што гэта абрэвіятура словаў "ОФИЦЕРСКОЕ СОБРАНИЕ". Лічу яго меркаванне памылковым. Хутчэй за ўсё скарачэнне расшыфроўваецца як "ОФИЦЕРСКАЯ СТОЛОВАЯ", таму што прыналежнасць маркі да афіцэрскага сходу пазначана ўжо на знаку.

- Марка наміналам у 5 /капеек - ?/. Латунны знак дыяметрам 20 мм., аналагічны вышэй апісаным экзэмплярам.

- Марка наміналам у 10 /капеек - ?/. Латунны знак дыяметрам 21 мм., аналагічны вышэй апісаным экзэмплярам, але на вонкавым баку надпісы акружаны кропкавай рамкай.



м. 10

- Марка наміналам у 10 /капеек - ?/. Круглы знак з белага металу дыяметрам 21мм.. Аналагічны наміналу 10"

- Марка наміналам у 20 /капеек - ?/. Круглы знак з белага металу дыяметрам 22мм.. Аналагічны наміналам "10"і "15".

У сваёй працы "Металічныя боны Расеі і СССР" (глядзіце спіс літаратуры №2) нябожчык А.В. Тункель памылкова пазначае, што ўсе вышэйзгаданыя маркі 27 пяхотнага Віцебскага палку з латуні і не заўсёды правы ў пазначэнні дыяметру знакаў. Намінал "20" у яго працы адсутнічае.

Існуюць металічныя маркі наміналам ў 5, 10 і 20 капеек з абрэвіятурай "Б.В.С." . А.В. Тункель адносіць іх да "БОБРУЙСКОГО ВОЕННОГО СОБРАНИЯ ", а А.П. Шышкін расшыфроўвае абрэвіятуру як "БЕЛОСТОЦКОЕ ВОЕННОЕ СОБРАНИЕ". Аргумент апошняга аўтару аб тым, што на марках выявы сабляў, а ў Беластоку былі раскватэраваны кавалерыйскія і драгунскія часці, здаецца больш пераканаўчым. А што на гэта скажуць калекцыянеры з Бабруйску?

Металічныя плацёжныя маркі – цікавейшы прадмет калекцыянавання. Незалежна ад таго, выдадзены яны ў XIX стагоддзі ці гэта сучасны тэлефонны жэтон, кожны плацёжны сродак павінны быць вывучаны калекцыянерам. Аўтар артыкулу просіць накіроўваць свае водгукі і інфармацыю па любым плацёжным металічным маркам, жэтонам па адрасе: "684005, РОССИЯ, КАМЧАТСКАЯ ОБЛ., гор. ЕЛИЗОВО – 5, ул. ШКОЛЬНАЯ, Д. 12, КВ. 52 РОСИНСКОМУ СЕРГЕЮ ВИКТОРОВИЧУ"

*С.В. Расінскі*

Літаратура:

1. А.П. Шышкін. Маркі вайсковых сходаў часцей рускай арміі. Дадатак да газеты "Мініяцюра", выпуск №1, красавік 1993 года.

2. А.В. Тункель. Металічныя боны Расіі і СССР. Данецк. 1992 год.

Малюнкі аўтара.

# Аб'явы







Абвесткі Беларускае народнае самапомачы пра правядзенне 1-е і 2-е маланкавае латарэі падчас вайны ў 1943 г.

Шукаем латарэйныя квіткі і любую інфармацыю па тэме: "Беларускія латарэі да 1958г.".


Знаком «Пачэснаму міліцыянэру» в 20-е годы награждались лучшие сотрудники белорусской милиции

Калекцыяную беларускія значкі і медалі. Шукаю значкі: Удзельнікаў будаўніцтва чыгункі Орша-Лепель, Пачэснаму міліцыянеру, "Строителю автомагистрали Минск – Масква, 1949г."

Узнагароды БНР, БКА, БЦР.

Пляшкі цікавых формаў і з надпісамі на шкле, як старыя, так і сучасныя.

Алесь Міхайлавіч Сярожкін а/с – 46., Ворша-9, Віцебская вобл., Беларусь

## Беларускі калекцыянер

Калекцыяную сучасныя сурагаты грошай у метале і пластмасе, у тым ліку тэлефонныя, транспартныя, гандлёвыя і г.д. Жэтоны краін СНД. Вельмі цікавяць жэтоны да аўтаматычных камер захавання. У абмен – любы калекцыйны матэрыял па Камчатцы: тэлефонныя карткі, значкі, сурагаты грошай, латарэйныя квіткі, мясцовыя газеты, каляндарыкі і інш.

Росинский Сергей Викторович, ул. Школьная, д. 12, кв. 52, г. Елизово – 5, 684005, Камчатская область, Россия.

# Расейскамоўныя беларускія латарэйныя квіткі

У Савецкія часы латарэйныя квіткі на Беларусі афармляліся ці па-беларуску, ці на дзвюх мовах: па-беларуску і па-расейску. Нават Усесаюзныя латарэйныя квіткі мелі беларускамоўныя надпісы.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі нейкі час увогуле амаль што не праводзіліся латарэі. Але пасля ўтварэння Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Беларускія латарэі" становішча рэзка змянілася. На жыхароў Беларусі і на радасць калекцыянераў абрынулася вялікая маса розных латарэйных квіткоў. Сёння мы маем агульнадзяржаўныя і абласныя выпускі латарэй. У апошні час самыя розныя міністэрствы і камітэты таксама ладзяць свае латарэі. Усе гэтыя латарэі праводзяцца і вырабляюцца пад эгідай прадпрыемства "Беларускія латарэі". Напэўна гэтая справа вельмі прыбытковая, бо нават "Камітэт па каштоўных паперах" заснаваў сваю латарэю, назваўшы яе "Большие деньги".




З мастацкага боку сучасныя беларускія латарэйныя квіткі не выклікаюць асаблівых заўваг. Але нельга пагадзіцца з тым, што латарэйныя квіткі афармляюцца толькі на расейскай мове. Кіраўніцтва прадпрыемства "Беларускія латарэі", выпрабляючы свае квіткі толькі па-расейску, тым самым ігнаруюць беларускую мову як дзяржаўную.

У такім становішчы самым лепшым сродкам будзе ўвогуле не купляць расейскамоўныя латарэйныя квіткі. Тым больш, што арганізатары сучасных беларускіх латарэй зрабілі ўсё, каб зменшыць колькасць выйгрышаў. Бо калі ў савецкія часы на латарэйным квітку быў толькі нумар і серыя, то бацькі-заснавальнікі "Беларускіх латарэй" увялі яшчэ і разрад.

*Б.К.*

















# З радаслоўхай паштовага штэмпеля

*ФІЛАТЭЛІЯ – гэта не толькі калекцыянаванне і вывучэнне паштовых марак, як мы часта думаем. Гэта яшчэ і збіранне, даследванне ўсіх паштовых гашэнняў: адбіткаў штэмпеляў і штампаў на канвертах, картках, разнастайных паштовых бланках.*

*Яны сталі важнай састаўной часткай філатэлістычных калекцый, храналагічных і генеральных, тэматычных і матыўных, асновай шэрагу спецыялізаваных збораў даследчага характару.*

Звычайна ўзгадваецца, што паштовы штэмпель вядзе свой радавод ад штэмпеля для чаканкі манет, чыя біяграфія начынаецца ў зусім глыбокай старажытнасці. Але, калі прыглядзецца да гэтага радаводу больш уважліва, то выяўляюцца продкі менш старажытныя, затое абавязаныя сваім паходжаннем непасрэдна службе сувязі.

Як выглядаюць сучасныя штэмпелі мы ўсе ведаем. Але яны не адразу сталі такімі. Калі прызначэнне канверта, паштоўкі і маркі за ўсю гісторыю пошты заставалась у асноўным аднолькавым, штэмпелю наканавана было перажыць шматлікія выпрабаванні. Якія толькі абавязкі не выпадалі на яго долю. Ён пазначаў час прыёма ліста паштовым аддзяленнем і яго назву, назву мясцовасці, адкуль адпраўлены ліст.

Вядомы і так называемыя санітарныя, эпідэміялагічныя, халерныя і чумныя штэмпелі. Пад час эпідэмій, баючыся, каб лісты ня сталі пераносчыкам заразы, іх дэзінфікавалі, звычайна з дапамогай акурвання (як потым было даказана - дарэмна). Пастаўлены затым штэмпель паведамляў адрасату: "Ачышчана звонку і нячыста ўнутры". Часам перад акураннем рабілі дзіркі і ў самім лісце. Адпаведна змяняўся тэкст штэмпелю: "Ачышчана звонку і ўнутры". Часам ён быў лаканічны: "Санітарны штэмпель". Перад адпраўкай паштавікі клалі "эпідэмічныя" лісты ў спецыяльныя пакеты. Але, як не цяжка здагадацца, адрасаты пасля прачытвання знішчалі іх, баючыся заразы. Таму санітарных штэмпеляў захавалася мала.

У пачатку трыццатых гадоў XXст. у філатэлістычным друку быў надрукаваны артыкул, у якім гаварылася, што першыя звесткі аб паштовых пячатках адносяцца яшчэ да старадаўняга свету.

*Была вядома калекцыя папірусаў егіпецкага фараона Цоззра-Аменоптіса, які ўладарыў каля 2575 годзе да нашай эры. Пад час яго кіравання ў Старажытным Егіпце была арганізавана служба, якая дастаўляла пошту ў самыя аддаленыя куткі: ад Лівіі да Аравіі і Абісініі. Пры раскопках яго грабніцы ангельскім егіптолагам Тэпельтгамам была знойдзена цэлая калекцыя папірусаў, перавезеных па пошце з 186 адбіткамі штэмпеляў, зробленых сіняй і чырвонай фарбай.*

*У 1919 годзе калекцыя "фараона-філатэліста" была перавезена ў Брытанскі музей у Лондане. Нягледзячы на пяцітысячны ўзрост, адбіткі добра захаваліся, бо захоўваліся ў медных цылiндрах з герметычнай накрыўкай.*

Сапраўды дзівосны продак. Але, можа ён выдуманы? Дзіўна, што ў сур'ёзнай філатэлістычнай літаратуры звестак аб гэтым не трапляецца. У любым выпадку, дзеля выяўлення радства не блага было б спачатку пазнаёміцца з фотаздымкамі таго, аб чым расказана. Затое штэмпелі італьянскіх кур'ерскіх пошт XV стагоддзя – рэальнасць, яны стаяць на некаторых дайшоўшых да нашага часу старажытных лістах, паведамляючы месца іх адсылкі, прыбыцця, а то і дату.

Старажытныя ассірыйцы дасылалі адзін аднаму лісты на гліняных таблічках, заткнутых у гліняныя абалонкі-канверты. Дык вось, ужо тады, каб забяспечыць ахову гэтых "канвертаў" ад пабочнай цікаўнасці, адпраўнікі часам ставілі на іх адбітак уласных пячатак. Цікава, што гэтыя пячаці нагадвалі – не па малюнку, зразумела, а па канструкцыі – сучасны малярскі валік, ці, калі хочаце, так званыя, ролікавыя штэмпелі, якія ўжываюцца да нашага часу. Пячатка ўяўляла сабой вытачаны з камня – яшмы, онікса, аздоблены выявамі валік, пранізаны па асі дзіркай. Туды прасоўвалі палачку і каціялі валік па паверхні "канверта". Выява адбівалася на вільготнай гліне.

*Датай нараджэння сучасных паштовых штэмпеляў лічаць 1661 год, а іх з'яўленне звязваюць з Генры Бішопам. Годам раней ён быў прызначаны на пасаду першага генеральнага паштмайстэра Злучанага Каралеўства.*

Аб нараджэнні ў Лондане папярэдніка сучасных паштовых штэмпеляў абвясціў загад адкупшчыка каралеўскай пошты сэра Генры Бішопа: "Уводзіцца штэмпель, які будзе накладацца на кожнае ліставанне, пазначачы дзень і месяц, калі ліст паступіў на пошту, каб чыноўнік не мог затрымліваць лістоў ад адной пошты да другой, што здаралася раней".

Усё зразумела, акрамя аднаго – навошта чыноўнікам затрымліваць лісты? Аказваецца, загад з'явіўся каля 1660 году.

У гісторыі Вялікабрытаніі гэта быў перыяд вострай унутранай барацьбы за ўладу паміж рэспубліканцамі, прыхільнікамі звергнутага ўраду Олівера Кромвеля, і раялістамі, якія зноў прывялі да ўлады дынастыю Сцюарта.

І ў тых, і ў іншых былі прыхільнікі з ліку паштовых чыноўнікаў. Яны затрымлівалі лісты сваіх праціўнікаў, каб пазнаеміцца са зместам ці ўручыць тады, калі ліст ужо састарэе. У мэтах усталявання аб'ектыўнага кантролю за своечасовай дастаўкай лістоў, Генры Бішоп распарадзіўся ўвесці асобныя штэмпелі з пазначэннем даты. Яны накладваліся на кожны ліст пры яго паступленні на пошту. Па даце штэмпеля атрымальнік меў магчымасць даведацца, як хутка ліст быў яму дастаўлены.

Што ўяўлялі сабой першыя штэмпелі Генры Бішопа? Штэмпель Бішопа выглядаў больш чым сціпла: кружок дыяметрам усяго 13 мм раздзелены на две часткі; дзве літары ў адной частцы ўказваюць месяц, лічбы ў другой – чысло.




Гэтаму штэмпелю ў адным з філатэлістычных слоўнікаў адведзена ўсяго 26 радкоў з малюнкам і подпісам уключна. І яшчэ трыццаць старонак – іншым паштовым штэмпелям, аж да сённяшніх дзён. Найбольш раннія лісты, якія мелі адбіткі штэмпеляў Бішопа і захаваліся да сённяшніх дзён, адносяцца да красавіка 1661 года. На філатэлістычных выставах дэманстраваўся, напрыклад, ліст, адпраўлены ў Лондан з невялікага горада Ярмута.

Ідэя кантраляваць па штэмпелях час дастаўкі лістоў аказалася вельмі карыснай і даволі хутка такія штэмпелі атрымалі шырокае распаўсюджванне. Акрамя Англіі, яны ўжываліся ў Шатландыі і Ірландыі, у многіх заморскіх уладаннях Вялікай Брытаніі: Індыі, Паўночнай Амерыцы і Канадзе, а затым каляндарныя штэмпелі з поспехам сталі ўжывацца і ў іншых краінах. За сваю дзейнасць на пасадзе генеральнага паштмайстра Вялікай Брытаніі, за паспяховыя вынікі сваіх рэформаў, Бішоп атрымаў званне лорда.

Такім чынам, Вялікая Брытанія стала радзімай не толькі

першых паштовых марак (яны былі выпушчаны ў траўні 1840г.), але і першых паштовых каляндарных штэмпеляў.

*Адна з значных падзей ў біяграфіі паштовага штэмпеля адбылася ў 1683 годзе. Тады ў Лондане была арганізавана гарадская "Пенні-пошта".*

Ідэю Бішопа адзначаць кожны ліст асобым штэмпелем з пазначэннем даты развіў англічанін Вільям Доквра, набыўшы ў 1683 годзе права на ўладанне гарадской поштай Лондана (яе называлі "пенні-пошта", так як перасылка ліста ў межах Лондана каштавала ў той час 1 пенс, у прастамоўі - "пенні"). Дзеля кантролю за тэрмінам перасылкі лістоў былі ўведзены дадатковыя даставачныя штэмпелі з пазначэннем гадзіны атрымання ліста па пошце для дастаўкі адрасату. Штэмпелі былі сэрцападобнай формы. У верхняй частцы лацінскія літары ""MOR" (па-ангельску "Morning" - раніца ) ці "AF" ("Afternoon") – "пасля поўдня"), ў ніжняй – лічбы, якія пазначалі гадзіны.




***"Раніца, 8 гадзін"***

На гарадской пошце Лондана Вільямам Доквра былі ўпершыню ўведзены і асаблівыя франкіровачныя штэмпелі. На лістах, перасылка якіх была аплочана адпраўнікам, ставіўся спецыяльны штэмпель трохкутнікавай формы з тэкстам "Penny Post Paid" (аплочана «пенні-пошта»). Літара ў цэнтры ўяўляла першую літару найменне паштовага аддзялення, дзе быў прыняты ліст.




***Штэпель лонданскай гарадской "пенні-пошты" (канец XVIII стагоддзя). Надпіс: "Заплачана аднапенсавай пошце".***

Такім чынам, штэмпель стаў знакам паштовай аплаты. Ў гэтай ролі ён выступаў даволі доўга. Больш таго, франкіровачныя, ці якія сведчаць пра аплату папярэдняга паштовага збору штэмпелі ў некаторых выпадках выкарыстоўваюцца і ў наш час.

Здавалася, што ў якасці знака паштовай аплаты лепей штэмпеля нічога і не прыдумаць. Але ў 1840 годзе ў Англіі сталі ўжываць паштовыя маркі... Калі ўдумацца, паштовы штэмпель быў іх прамым папярэднікам: марка ж – таксама знак паштовай аплаты, які толькі не ставіцца на ліст у момант адпраўкі, а прыклейваецца.

Праз некалькі гадоў пасля ўвядзення штэмпеляў з каляндарнымі датамі да іх далучыліся новыя штэмпелі для паштовых адпраўленняў, на якіх цяпер пазначалася мясцовасць, дзе знаходзілася пошта, якая атрымала ліст. Такімі ж "геаграфічнымі" былі і першыя рускія паштовыя штэмпелі, якія накладваліся на паштовыя адпраўленні напрыканцы XVIII стагоддзя.



***"Мальційскі крыж" - штэмпель, які ставілі на першых у свеце англійскіх марках. Побач - "краты" з Саксоніі. Абодва штэмпеля адносяцца да XIX стагодзя.***

Аб'яднаныя штэмпелі з пазначэннем і мясцовасці і каляндарнай даты сталі ўжывацца напрыканцы XVIII – пачатку XIX стагоддзя.

*Леў Коласаў, г. Мінск*



# МАРКІ БЕЗ НАМІНАЛУ

*Паштовая марка -- знак аплаты адпраўнікам перасылаемай карэспандэнцыі. Вось чаму на марках пазначаецца іх намінальны кошт, а дзеля зручнасці паштовых служачых і адпраўнікоў звычайна выпускаюць маркі розных наміналаў, якія адпавядаюць асноўным паштовым тарыфам. А ці можа быць марка без наміналу? Недарэчнае пытанне - падумаеце вы. Як жа карыстацца такой маркай і каму ўвогуле яна патрэбна?*

І ўсё ж маркі без наміналу бываюць, і з'яўляюцца яны ў розныя часы і па розных прычынах. Пачнем з таго, што існуюць так званыя бясплатныя маркі, яны выкарыстоўваюцца для адзнакі, што дадзеная карэспандэнцыя перасылаецца адпраўнікам бясплатна. Такія маркі, без пазначэння намінала, выпускаліся, напрыклад, у Гішпаніі ў 1896-1898 і 1917 гадах для дэпутатаў картэсаў і сенатараў. У наш час бясплатныя маркі выкарыстоўваюцца ва Вьетнаме для карэспандэнцыі ваеннаслужачых і інвалідаў вайны. Выпускаліся бясплатныя маркі для ваеннаслужачых і ў некаторых іншых краінах.

Акрамя бясплатных марак існавалі і "аплочваемыя" маркі без пазначэння наміналу. Напрыклад, у 1859 годзе на Іанічных астравах была выпушчана серыя з трох марак прадажнай цаною 0,5 пенні, 1 пенс і 2 пенса. Хаця намінальны кошт на знаках паштовай аплаты не быў пазначаны, ён вызначаўся па колеру маркі – адпаведна аранжаваму, сінему ці чырвонаму.

Выпуск марак без намінала справа вельмі нязручная, таму паштовыя ўстановы імкнуліся яго пазбегнуць. І ўсё ж патрэба вымушала ісці на такія крокі.

У 1922 годзе ў РСФСР была выпушчана паштова-дабрачынная серыя з чатырох марак ў дапамогу галадаючым. Пакуль маркі рыхтаваліся да выдання, паштовыя тарыфы з-за інфляцыі некалькі разоў мяняліся. Таму вырашылі, каб пазбегнуць абясцэньвання новых марак, намінал на іх не пазначаць. Пасля выдання для ўсіх іх быў усталяваны адзіны кошт - 25 рублёў, з якіх 20 рублёў складаў паштовы збор, а 5 рублёў адлічаліся ў фонд дапамогі пацярпелым. Маркі 1922 года былі адзінымі ў СССР без пазначэння наміналу. А ў ЗША, напрыклад, аналагічная марка выйшла апошні раз у 1975 годзе.

Змяненне паштовых тарыфаў, якое адбывалася ва ўсім свеце напрыканцы 70-х – пачатку 80-х гадоў прывяло да з'яўлення трэцяй формы пазначэння наміналу на марках – літарнай. У ЗША і Канадзе з'явіліся стандартныя знакі паштовай аплаты з літарамі "A", "B", "C". Гэта сведчыла, што марка з адпаведнай літарай выкарыстоўваліся для франкіроўкі строга акрэсленага віду карэспандэнцыі. Напрыклад, літара ў "A" цэнтаў адпавядала прастому лісту і прадавалася па тым кошце, па якім адпраўляўся просты ліст ў дзеючы момант. Такім чынам са змяненнем тарыфу змянялася толькі грашовае выражэнне наміналу "A", але на просты ліст усё адно трэба было наклейваць адну такую марку.

Маркі без наміналу былі выпушчаны таксама ў Польшчы. Пасля знікнення СССР і ўтварэння новых дзяржаваў, паштовыя ўстановы шмат якіх краін ўжо многія гады выпускаюць безнамінальныя маркі. Украінская пошта, напрыклад, пазначае "намінал" марак літарамі ад "А" да "З".

Ужо некалькі гадоў пошта краіны выпускае канверты, паштовыя карткі і маркі без пазначэння намінальнага кошту. Маркі на гэтых выпусках аздоблены літарамі "А" і "В". Канверты з маркай, на якой пазначана "А" - для пасылкі лістоў да 20 грам, на паштовых картках - літара "В". Усе безнамінальныя выпускі прызначаны толькі для ўнутранага карыстання.

Выпуск такіх канвертаў, паштовых картак і марак тлумачыцца перш за ўсё нестабільнай фінансавай сістэмай, што ўплывае на паштовыя тарыфы, якія часта мяняюцца.

*Леў Коласаў, 2002 г.*

# Клей на марках

Мы здаўна прызвычаіліся да таго, што на адваротны бок паштовай маркі загадзя нанесены спецыяльны клей. Дастаткова яго намачыць – і марка можа быць надзейна наклеена на канверт. Такі спосаб ужывання знакаў паштовай аплаты ўпершыню з'явіўся ў 1840 годдзе разам з першай у свеце паштовай маркай. І, хаця асноўная ўвага філатэлістаў заўжды прыцягнута да знешняга боку маркі, яе клеевы бок таксама можа распавесці шмат цікавага.

Ужо стваральнікі першых знакаў паштовай аплаты скардзіліся на шматлікія нязручнасці, звязаныя з нанясеннем клею на марку. Але яшчэ большыя цяжкасці з'явіліся ў працэсе выкарыстання марак.

Добра вядома, што ў кожнай новай справы ёсць праціўнікі. І вось нехта распаўсюдзіў чуткі, што ад марачнага клею пачынаецца рак языка. Нягледзячы на ўяўную недарэчнасць, гэтыя чуткі трымаліся настолькі доўгі час, што пасля дванаццаці гадоў брытанскія афіцыйныя органы  былі вымушаны надрукаваць справаздачу, у якой пазначаўся рэцэпт клея. Цікава, што гэта гісторыя стала нагодай  для з'яўлення аднаго з найлепшых артыкулаў Чарлза Дзікенса "Вялікі сакрэт брытанскага клею".

Звычайна клей бывае белы, бежавы, жоўты ці карычневы. Але, калісьці яго спецыяльна афарбоўвалі ў чырвоны колер, каб змагацца з фальсіфікацыямі. Клей такога саставу лічыўся зручным яшчэ і таму, што, нават калі марка выпадкова згубіцца, на канверце заставалася чырвоная пляма, якая сведчыла, што перасылка ліста аплочана.

Часам на маркі клей наносіўся такім чынам, што ён утварае на адваротным баку які-небудзь малюнак ці манаграму. Такія маркі выдаваліся, напрыклад, у былой Чэхаславакіі.

Ідэя адмаўлення ад суцэльнага клеевага слою мае і іншую, больш практычную рэалізацыю. Гаворка ідзе аб так званым эканомным гуміраванні, калі клей кладзецца на адваротны бок маркі асобнымі кружкамі ці палоскамі. У гэтым выпадку расход клею ўдвая меншы. Прыкладам марак з эканомным гуміраваннем могуць служыць знакі паштовай аплаты, якія выдаваліся ў савецкай зоне акупацыі Нямеччыны.

У краінах з вільготным кліматам, дзе існуе небяспека зліпання марак яшчэ да іх выкарыстання, клеевы бок звычайна прыпудрывалі спецыяльным парашком. Аднак цяпер усё шырэй выкарыстоўваецца спецыяльны трапічны клей – запрасаваная ў адваротны бок ліста амаль незаўважная для вока цепластойкая маса.

Адным з апошніх новаўвядзенняў пошты з'яўляецца выданне ў некаторых краінах марак, выробленых па прынцыпе сінтэтычных шпалераў. Такія маркі пакрыты з адваротнага боку незасыхаючай пластыкавай масай, якая прыкрыта паперавай пракладкай і здымаецца пры наклейванні. Каб прыклеіць такую марку, дастаткова прыціснуць  яе пальцам.

Маркі з такім клеем атрымалі шырокае распаўсюджванне ў краінах Еўропы. Беларуская пошта таксама выпусціла марку, якая наклейваецца сама. Гэта паштовыя мініяцюры гэтак званага стандартнага выпуску.

Гэтыя маркі зручныя для выкарыстання работнікамі пошты – ня трэба мачыць маркі, мець пад рукамі мокрую губку і гэтак далей, зручныя яны і для сакратароў прадпрыемстваў, якія адпраўляюць вялікую колькасць карэспандэнцыі, калі няма франкіравальных машын.  Але гэтыя маркі зусім нязручныя філатэлістам, асабліва тым, хто калекцыянуе гашаныя маркі. Адарваць такую марку ад канверта практычна немагчыма.

Беларуская пошта і надалей намерана выпускаць маркі, так званых стандартных серый, якія наклейваюцца самі.

*Леў Коласаў*

## Дадатак да энцыклапедычнага даведніка

Гартаючы старонкі энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала", які выйшаў у 1986 г. у Менску, дарэмна будзеце шукаць там раздзел "філуменія", каб даведацца, якія этыкеткі ад запалак прысвечаны беларускаму песняру. Ёсць там раздзел філакартыя, дзе падаюцца звесткі пра паштоўкі з выявай Купалы. Раздзелу фалерыстыка няма, але ёсць артыкулы: значкі купалаўскія і медалі купалаўскія.

Аўтары - складальнікі ці ўвогуле нічога не ведалі пра купалаўскую філуменію, ці то палічылі, што гэтыя звесткі няварты таго, каб іх друкаваць. Але, калі змяшчаюцца артыкулы па адных галінах калекцыянавання, то ня трэба адхіляць і іншыя. Мне думаецца, што прыйшоў час выдаць асобнай кніжкай дадатак да энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала", у які ўвайшло б усё тое, што не патрапіла ў асноўнае выданне. У тым ліку і новыя звесткі па купалазнаўству. Вельмі дарэчы быў бы там і такі раздзел – філуменія, калекцыянаванне і вывучэнне запалкавых этыкетак. У 1967 г. гомельскім ф/з камбінатам да 85 угодкаў з дня нараджэння Янкі Купалы выдадзена серыя з трох этыкетак памерам 48 x 34 мм.

1. Партрэт Янкі Купалы павернуты ўлева. Пад ім чорнай фарбай надпіс "Янка Купала 1882-1942". З левага краю агульны для ўсіх трох этыкетак беларускі арнамент чырвонай фарбай і надпіс "85 год з дня нараджэння Янкі Купалы", які ідзе з закругленнем у правы бок.

2. Выява чорнай фарбай з надпісам "хата ў Вязанцы, дзе нарадзіўся паэт".

3. Выява чорнай фарбай з надпісам "музей Я. Купалы ў г. Мінску".

Пінскі ф/з камбінат таксама ў 1967 г. выдаў аднатыповую серыю этыкетак. Але надпіс "85 год з дня нараджэння Янкі Купалы" на гэтых этыкетках змешчаны зялёным колерам і сінім.

Серыя з трох этыкетак памерам 48 x 35 мм выдадзена да 90 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы ў 1972 годзе барысаўскім ф/з камбінатам.

1. Партрэт Янкі Купалы павернуты ўправа. Над ім надпіс, цёмна-зялёнай фарбай, аднолькавы для ўсіх трох этыкетак "90 гадоў з дня нараджэння". З правага боку па вертыкалі працяг надпісу "Янкі Купалы".

2. Выява чорнай фарбай і надпіс цёмна-зялёнай фарбай "Музей Я. Купалы ў г. Мінску"

Вядомы і запалкавыя этыкеткі, прысвечаныя Якубу Коласу, але гэта ўжо іншая тэма.

*А.Сяроэюкін.*










Беларускі калекцыянер

# Беларускае таварыства калекцыянераў

Пра беларускае таварыства калекцыянераў, якое існавала ў нашай краіне ў 20-30 г.г. мінулага стагоддзя, вядома вельмі мала. Смаленскі калекцыянер Сяргей Міхайлавіч Мільнічэнка на адрас рэдакцыі "БК" даслаў артыкул Ц. Мількінай "Белорусское общество коллекционеров", які быў змешчаны ў часопісе "Советский коллекционер". за 1929 год ў № 7-9 (95-97). Гэты артыкул пацвярджае, што Беларускае таварыства калекцыянераў было створана і існавала ў даваенныя часы на Беларусі. Нават існавалі філіі ў Гомелі і Рагачове. У склад таварыства ўваходзілі цэлы шэраг вядомых людзей таго часу, сярод якіх быў і знакаміты беларускі нумізмат Мікола Шчакаціхін. Спадзяемся, што артыкул Ц. Мількінай, які мы змяшчаем на мове арыгіналу, будзе першым крокам да вяртання з забыцця Беларускага таварыства калекцыянераў.

*А.Сяроэюкін*

## Белорусское общество коллекционеров

Вопрос о создании Белорусского общества коллекционеров был поставлен тогда, когда Западное отделение СФА в процессе своей повседневной деятельности натолкнулось на разрозненность коллекционерской массы и отсутствие учета коллекционеров, что чрезвычайно затрудняло работу по снабжению нужными филтоварами белорусских коллекционеров.

Был создан организационный комитет из двенадцати товарищей, которые выработали устав общества, впоследствии утвержденный Наркомвнутделом БССР.

Оргкомитетом были достигнуты известные успехи в области привлечения в общество видных коллекционеров-общественников, среди них проф. Кайгородова (филателист), проф. Щекотихина (нумизмат), проф. Вознесенского (бонист) и т. д.

Правлением общества были разосланы всем уполномоченным СФА по периферии инструкции об организации филиалов общества.

В Гомеле и Рогачеве такие филиалы уже организованы. В целях популяризации задач и целей общества Правлением намечено к осени открыть специальную выставку, на которую приглашены и выразили свое согласие участвовать Госбанк и Центротрудсберкасса. Предположено пригласить и Наркомпочтель.

В начале учебного года по всем школам приступлено к организации кружков юных коллекционеров.

Таким образом, работа, которая была проделана до сих пор, является до известной степени базой, на которой должна быть построена популярность нашего общества.

Своей очерёдной задачей Белорусское общество коллекционеров наметило установление тесного контакта с ВОФ, что поможет созданию единой организации, которая использует максимум средств и наиболее целесообразно организует удовлетворение потребностей коллекционеров.

Связь с ВОФ будет служить фундаментом для нашего общества, ибо иначе оно напоминало бы здание, построенное на песке.

Грани между нами и ВОФ не может быть, ибо задачи и цели одинаковы. Этим мы сумеем завязать и сохранить связь с коллекционерами всего союза, что для нашего молодого общества весьма важно.

*Ц. Милькина, 1929 г.*

# НАДДРУКОЎКІ НА МАРКАХ

Часта на практыцы паштовых устаноў шмат якіх краін свету выкарыстоўваюцца маркі з наддрукаванымі на іх дадатковым ці новым тэкстам. Наддрукоўкі ці працягваюць жыццё старым маркам, ці пераўтвараюць іх у зусім іншыя знакі паштовай аплаты.

Вядома, што далёка не заўсёды паштовыя маркі знаходзяцца ў абарачэнні ў тым выглядзе, у якім яны выйшлі з тыпаграфіі. Часта на іх у выглядзе наддрукоўвак з'яўляецца дадатковы тэкст ці якое-небудзь пазначэнне, якія істотна змяняюць першасны выгляд маркі.

Наддрукоўкі могуць змяняць намінал маркі, дапаўняць яе змест, а могуць цалкам змяняць прызначэнне ці тэматычную накіраванасць паштовай мініяцюры. Зразумела, у кожным асобным выпадку лепш было б выпусціць новую марку, але на гэта не заўсёды ёсць час і магчымасці, ды і вялікія тыражы старых марак, якія прыйшлі ў непрыгоднасць у выніку змены таксама трэба неяк выкарыстоўваць. Вось і з'яўляюцца наддрукоўкі – самы просты спосаб зрабіць са старой маркі новую. Дзеля гэтага дастаткова ўзяць гатовыя марачныя лісты і на іх прама па малюнку надрукаваць іншай фарбай якую-небудзь выяву, тэкст ці лічбы. Паштовыя ўстановы ўсіх краін карыстаюцца гэтым метадам ужо каля ста гадоў.

Неабходнасць у наддрукоўках часцей за ўсё ўзнікае ў перыяд інфляцыі, калі папяровыя грошы хутка падаюць у цане. Так было, напрыклад, у першыя гады Савецкай улады. У лютым 1922 года з'явілася першая наддрукоўка. На марцы рублёвай вартасці чорнай фарбай быў прастаўлены новы намінал – "500 руб.". Затым з'явіліся маркі вартасцю 7 500 і 10 000 рублёў, а праз некалькі месяцаў, у кастрычніку таго ж 1922 году, на пошце сталі прадавацца маркі з наддрукоўкай самага вялікага наміналу: "100 000 руб.". Дарэчы, у тыя ж гады ў Нямеччыне курсіравалі паштовыя маркі з наддрукоўкамі новых наміналаў у 5 і 10 мільярдаў рэйхсмарак, самыя "дарагія" у свеце.




Часам наддрукоўка можа сведчыць пацвярджэнне грашовага эквіваленту маркі. Напрыклад, у 1873-76 гадах у Пуэрта-Рыка выкарыстоўваліся маркі былой іспанскай калоніі Кубы з наддрукоўкамі подпісаў высокапастаўленых чыноўнікаў, у тым ліку міністра фінансаў, бо Куба мела ў той час сярэбраную валюту, а Пуэрта-Рыка – папяровую.

Цікавая наддрукоўка, якая змяніла намінал маркі, з'явілася ў Нямеччыне ў 1874 годзе. Яе з'яўленне звязана з увядзеннем новай валюты: замест грошай і крэйцэраў сталі выкарыстоўвацца пфенінгі і маркі. У сувязі з гэтым было вырашана зрабіць адпаведныя змены на марках, якія знаходзіліся ў абароце. Так на мініяцюры з наміналам 212 грошай было надрукавана вялікім шрыфтам "212", а на марцы вагой ў 9 крэйцэраў – лічба "9". Аднак назва новых грашовых адзінак на марках не прастаўлялася. Такія маркі з нічога не абазначаючай наддрукоўкай знаходзіліся ў абарачэнні не шмат часу – праз некалькі месяцаў выйшлі маркі з наміналам у пфенінгах.

Часам наддрукоўкі змяняюць тэматычны накірунак маркі. Так, у Балгарыі, ў 1945 годзе на знаках паштовай аплаты з партрэтамі цара былі пастаўлены тэкст, які заклікаў збіраць жалезны лом, макулатуру і іншыя віды другаснай сыравіны. У першыя гады савецкай улады на царскіх марках рабіліся наддрукоўкі, пераўтвараючыя іх ў паштова-дабрачынныя выпускі ў дапамогу дзецям.

Часта прычынай з'яўлення на марках новых тэкстаў з'яўляюцца войны ці тэрытарыяльныя спрэчкі. Так, у 1910 годзе чылійскія ўлады адкрылі на астравах Хуан-Фернандэс паштовую кантору з мэтай перашкаджаць такім чынам захопу астравоў якой-небудзь каланіяльнай дзяржавай. Для новай канторы былі выдзелены чатыры з выпушчаных раней марак з наддрукоўкай "Астравы Хуан-Фернандэс". Аднак хутка чылійскія ўлады прыйшлі да высновы, што наддрукоўка падкрэслівае хутчэй не сувязь астравоў з Чылі, а іх самастойны характар. Таму на астравы тэрмінова былі дасланы стандартныя чылійскія маркі, а знакі паштовай аплаты з наддрукоўкамі зрабілі дзейснымі на ўсёй тэрыторыі краіны.

Часта наддрукоўкі на марках маюць засцерагальны характар. Напрыклад, у 1915 годзе ўсе універсальныя маркі Брытанскага Гандураса, выраблёныя ў Вялікабрытаніі і адпраўляемыя ў калоніі морам, былі аздоблены хвалепадобнай наддрукоўкай, каб у выпадку іх захопу баявымі караблямі Германіі маркі можна было адразу выключыць з абароту.

Падобная гісторыя была і з першым алімпійскім выпускам – маркамі Грэцыі 1896 года, значная частака тыража якіх была захоплена Турцыяй падчас баявых дзеянняў. Каб перашкодзіць нашэсцю "палонных" марак, грэчаскія ўлады зрабілі на астаўшыхся ў іх знаках паштовай аплаты наддрукоўку штэмпеля з гербавым шчытом у цэнтры і назвай адпаведнага раёну. Пры гэтым наддрукоўкі рабіліся спачатку на вонкавым, а затым на адваротным баку маркі.

З'яўленне наддрукоўвак на марках можа быць выклікана ўзнікненнем новай дзяржавы. Напрыклад, у нашай краіне ў пачатку дваццатых гадоў рабіліся наддрукоўкі на марках дарэвалюцыйнай Расеі. Такія з'явы адбываліся і ў бальшыні былых калоній у першыя гады іх самастойнага існавання. Пры гэтым часцей за ўсё наддрукоўка закрэслівае старую назву краіны і даводзіць новую. А ў Іране, пасля звяржэння рэжыму шаха, на марках была зроблена наддрукоўка, якая закрэслівала партрэт былога манарха.

Але існуюць наддрукоўкі і іншага кшталту. Іх нараджае неабходнасць тэрмінова адзначыць якую-небудзь значную падзею. Так было ў 1957 годзе, калі паляцеў першы штучны спадарожнік Зямлі, у 1959 годзе, калі савецкія баскетбалісты сталі чэмпіёнамі свету, і ў шмат якіх другіх выпадках. Адзначым, што часцей за ўсё "віноўнікамі" падобных філатэлістычных навінак на марках СССР з'яўляліся хакеісты. У іх гонар было зроблена пяць наддрукоўвак на марках і дзве на блоках.

У альбомах калекцыянераў ёсць і "шахматныя" наддрукоўкі: А. Карпаў – уладальнік васьмі "Шахматных Оскараў".

Часта наддрукоўкі на марках звязаны непасрэдна з філатэліяй – з правядзеннем разнастайных філатэлістычных выставаў.

У сёняшні час колькасць наддрукоўвак на паштовых марках усяго свету пастаянна расце, а калекцыі філатэлістаў папаўняюцца новымі цікавымі матэрыяламі.

Беларуская пошта таксама прыносіць падарункі філатэлістам у выглядзе наддрукоўвак на раней выпушчаных марках. Першая такая наддрукоўка з'явілася ў верасні 1992 году. На першай беларускай марцы "Крыж Еўфрасінні Полацкай" была зроблена наддрукоўка тэксту "1000-годдзе Беларускай праваслаўнай царквы". Другая наддрукоўка была зроблена ў кастрычніку 1993 года – новы намінал і тэкст на беларускай і ангельскай мовах: "XVII Зімняя Алімпіяда ў Ліляхамеры" і "Чэмпіянат міра па футболу 1994 году ў ЗША". Тады наддрукоўкі былі зроблены на 8 марках і 8 блоках. Затым былі зроблены наддрукоўкі новага наміналу на стандартных марках "Пагоня", да юбілею нараджэння мастака Ф. Русяца і інш. У кастрычніку 2001 года былі ўведзены ў паштовы абарот маркі з наддрукоўкай новага наміналу і года выдання на марках другога, трэцяга і чацвёртага стандартных выданняў.

*Леў Коласаў, г. Мінск, 2002 г.*

# Банкноты Беларусі

У 2002 годзе ў Наваполацку Сяргей Яфімаў выдаў брашуру "Банкноты Беларусі". Змест гэтага выдання прысвечаны самым розным разнастайнасцям банкнот Рэспублікі Беларусь. На старонцы 24 змешчаны артыкул "Выпуск 2000 году". У першай частцы гэтага артыкула гаворыцца наступнае: "На грошах 2000 г. не заўважана, пакуль што ніякіх сур'ёзных адхіленняў. Ёсць 10 рублёў 2000 г. з літарай "И" у літарах нумара. Але такой літары няма ў беларускай мове, а ёсць літара "і". Магчыма гэта не ўлічылі ў расейскім дзяржзнаку (дзе друкуюцца беларускія грошы) і запусцілі ў выраб. А ў беларускім Нацбанку на гэта не звярнулі ўвагу і пусцілі ў абарачэнне нейкую колькасць. Але потым, магчыма, зразумелі памылку (ці паказаў нехта на гэтую памылку) і пачалі здымаць іх з абарачэння. Мне вядомы толькі два тыпы нумароў з літарай "и" на о... і на 1..."





На мой погляд – інфармацыя, змешчаная С. Яфімавым у сваім выданні, вельмі цікавая. Пажадаем аўтару і надалей працаваць у рэчышчы беларускай баністыкі

*Б.К.*

## Знаходка на гарышчы

У "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі" увакходзяць тры жылыя дамы пачатку XX стагоддзя па вуліцы Мінскай у Воршы. Яны ствараюць адзіны архітэктурны ансамбль і з'яўляюцца прыкладам жыллёвага будаўніцтва старой Воршы. На сёняшні дзень будынкі гэтыя знаходзяцца ў аварыйным стане. Далейшы лёс іх невядомы. Можа так стацца, што іх, як і буданак езуіцкага бровара XVII стагоддзя, паціху зруйнуюць, замест таго каб рэстаўраваць.

Пры наведванні гэтых будынкаў мне пашчасціла знайсці карабок ад запалак, які можна датаваць самым пачаткам 20 стагоддзя. Я думаю, што для калекцыянераў-філуменістаў будзе цікава пазнаёміцца з гэтай знаходкай.

Карабок драўляны – памерам 5,8 х 3,8 мм. Этыкеткі маюцца з абодвух бакоў. На першым баку ў версе надпіс "спичечн. фабри. Балканская звізда". Пасярэдзіне выява вершніка, магчыма гэта вядомы сюжэт "Цуда Георгія аб змяі", але над ім чамусьці лунае шасціканцовая зорка і дзіда знаходзіцца за спіной вершніка. Пад капытамі каня выява змея, хаця гэты кавалак дрэнна праглядаецца. Таму можа быць, гэта нешта іншае, вельмі падобнае на змея. Ніжэй вершніка надпіс "И.Н ДУНАЕ... въ Ярославлъ" Адзін радок не чытаецца, а потым "утвержд. департ. торговли и мануфактур". З боку наклеена этыкетка чырвонага колеру, якая нагадвае нашы сучасныя акцызныя маркі. На ёй можна разабраць надпіс "Воспрещается" і "75 шт".



На другім баку карабка выява шасціканцовай зоркі, ў цэнтры якой змешчаны надпіс "Продажа во всіхъ городахъ россійской импірии" Вакол гэтай зоркі надпіс "Эти спички посль гашенія не тлъют".

Захаванасць карабка можна ацаніць як здавальняючую. Як бачым, карабок гэты трапіў да нас з расейскага гораду Яраслаўля. Нічога не магу сказаць пра ступень рэдкасці такога прадмету, але думаю, што ня кожны калекцыянер – філуменіст мае што-небудзь падобнае.

*Алесь Сярожкін*

# ЗНАЧКІ АРШАНШЧЫНЫ

Беларускі калекцыянер

Яшчэ ў 1960-я гады вядомы ў былым СССР радыётэхнічны завод "Чырвоны Кастрычнік", што ў горадзе Барань, пачаў выпускаць значкі і медалі. С 1991 г. прадпрыемства носіць назву "Дзяржаўная прамысловая фірма "Лёс", а сёння гэта ўнітарнае прадпрыемства "Лёс".

Значкі і медалі выпускаліся да дзяржаўных свят, юбілеяў арганізацый і прадпрыемстваў, памятных дат. Высокі ўзровень вытворчасці - наяўнасць мастакоў-дызайнераў, тэхнічныя магчымасці і кваліфікаваныя кадры, дазвалялі рабіць іх на добрым узроўні і разнастайных відаў і тыпаў. Пры вырабе значкоў ужываліся штампаванне, шаўкаграфія, напыленне металаў у вакуме, пластмасавае ліццё, розныя віды матэрыялаў і гальванічных пакрыццяў. Усяго іх было выпушчана болей 100 відаў рознай тэматыкі, накладам кожны ад некалькіх дзесяткаў да тысячы і болей, і гэта вялікі ўклад у фалерыстыку Аршаншчыны.

Поўнай калекцыі значкоў і медалёў УП "Лёс" нідзе не маецца, яна часткова знаходзіцца па музеях і прыватных калекцыях, многія значкі ўжо немагчыма ідэнтыфікаваць – якое прадпрыемства іх выраблялa, хто з'яўляецца мастаком. Каля 50-ці значкоў завода ў Барані апісаны (з невялікімі недакладнасцямі) ў "Беларускім калекцыянере" №22. Гэтай публікацыяй значна дапоўніцца каталог значкоў Аршаншчыны.

Неабходна адзначыць, што традыцыя зберагаецца – прадпрыемства і цяпер прадаўжае выпуск значкоў.

*Віктар Міхасёў*

## Апісанне значкоў

*Нумар па парадку; год выпуску; памеры, матэрыял; апісанне; мастак; месца выпуску.*

**№1** 1983 г., 23 X 12 мм.; сітал, алюмінеавая падкладка (металічная?) далей – сіт., ал.

У цэнтры група людзей, якія плывуць на плыце па рацэ на фоне гор. Злева і ўнізе надпісы "АльтаИр", "Клуб туристов". Мастак І. Буранкоў.




Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.
Значок турысцкага клуба "Альтаір" г. Барань.

**№2** 1970 г., 10 х 16 мм.; сіт., латун. падкладка.

На белым фоне аранжавая стылізаваная выява вежы Крамля ў выглядзе лічбы "1" ніжэй надпіс "Мая".

Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.



**№3** 1998 г., 52 х 24 мм.; алюм., лак..
На карычневым фоне надпіс "Фирма «Лёс» Беларусь". Мастак Л. Сімановіч.
Выраблены: Дзяржаўная Прамысловая Фірма "Лёс" (далей ДПФ "Лёс") г. Барань.




**№4** 1999 г., Дыяметр 36 мм.; паластмаса.
На горным фоне надпіс "СКБ 40 лет". Белыя кольцы (кругі?) і трохкутнік, сімвалізуючы антэну і радыёхвалі. Мастак Л. Сімановіч.
Выраблены: Дзяржаўная Прамысловая Фірма "Лёс" г. Барань.




**№5** 1998 г., 32 х 32 мм.; алюм., лак..
У белым крузе надпіс "Фирма" і гандлёвы знак "ГПФ "Лёс". Мастак Л. Сімановіч.
Выраблены: Дзяржаўная Прамысловая Фірма "Лёс" г. Барань.




**№6** 1994 г., Дыяметр 32 мм.; сіт., на чорнай мет. падкладцы.
На аранжавым фоне выява вершніка. Па кругу надпіс "Барань 1994 конный спорт. Международные соревнования". Мастак С. Вараб'еў.
Выраблены: Дзяржаўная Прамысловая Фірма "Лёс" г. Барань.



**№7** 2004 г., 30 х 45 мм.; сіт.
У цэнтры выява кніжкі з надпісам "Оршаведение, курс". Зверху і знізу – "СШ №18, г. Орша".
Выраблены: РУП "Лёс" г. Барань.




**№8** 2004 г., 30 х 45 мм.; сіт.
У цэнтры – званочак у абрамленні лаўровых галін і надпіс "Последний звонок", уверсе "СШ №18, г. Орши", унізе - "2003 г.".
Выраблены: РУП "Лёс" г. Барань.




**№9** 2004 г., 30 х 45 мм.; сіт.
Уверсе "г. Орша", унізе "СШ №18", у цэнтры разгорнутая кніжка з кветкай, ніжэй "1975"
Выраблены: РУП "Лёс" г. Барань.




**№10** 2004 г., 30 х 45 мм.; сіт.
У цэнтры на разгорнутай кніжцы шапачка са званком, надпіс "г. Барань, СШ №18, 2004 г.".
Выраблены: РУП "Лёс" г. Барань.




**№11** 2004 г., 30 х 45 мм.; сіт.
У цэнтры стылізаваны надпіс "Азимут" туристический клуб", уверсе "г. Орша, СШ №18". Справа знак бакоў свету.
Выраблены: РУП "Лёс" г. Барань.




**№12** 1984 г., 28 х 39 мм.; алюм.
На белым фоне чырвоным колерам у рамцы герб СССР, ніжэй стылізаваны лісток каляндара з надпісам "184, март, воскресенье, Выборы в Верховный Совет СССР".
Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.



**№13** 1969 г., 17 х 19 мм.; алюм.
На белым полі зялёнай фарбай на фоне кругоў выява цыркуля. Унізе надпіс "СКБ 1959 – 1969".
Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.




**№14** 1991 г., 21 х 25 мм.; сіт., алюм.
У версе надпіс "Фестываль беларускага мастацтва", ніжэй – фрагмент арнамента з надпісам "Барань, 1991". Мастак С. Вараб'еў.
Выраблены: Дзяржаўная Прамысловая Фірма "Лёс" г. Барань.



**№15** 1995 г., 20 х 22,5 мм.; сіт.
На белым фоне – дарога, якая ідзе ўдалечыню і пуцяпровад, надпіс "Орша". У верхняй частцы _ "ДРСУ – 181, 30, 1965 – 1995". Мастак С. Ільяшэнка.
Выраблены: Дзяржаўная Прамысловая Фірма "Лёс" г. Барань.




**№16** 1988 г., 26 х 35 мм.; алюміній анадзіраваны.
Надпіс злева - "Орша, 1958 – 1988", унізе "КСКиД". У цэнтры – выява будаўнічага крана з грузам. Мастак С. Ільяшэнка.
Значок выпушчаны да 30 годдзя Аршанскага камбіната будаўнічых канструкцый і дэталей.
Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.




**№17** 1960 г., 30 х 40 мм.; латунь.
На чырвоным фоне рэльефны сімвал зямнога шару і надпіс "1мая".
Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.



**№18** 1960 г., 23 х 42 мм.; пластмаса.
На фоне ўзыходзячага сонца залаты сімвал узлятаючай ракеты. У верхняй частцы чырвоны сцяг з зоркай. Унізе на чырвонай стужцы надпіс "ЦЕХ №1".
Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.



**№19** 1970 г., 39 х 40 мм.; пластмаса.
Белая фігурка голуба, які нясе плакат з чырвоным надпісам "МИР".
Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.



**№20** 1992 г., 21 х 25 мм.; сіт., мет. падкладка.
На белым фоне ў люстраным крузе стылізаваныя фрагменты герба г. Барань і надпіс "Барань, 394". Мастак С. Вараб'еў.
Выраблены: ДПФ "Лёс" г. Барань.



**№21** 192 г., 21 х 25 мм.; сіт., метал.
На аранжавым фоне круг, у якім стылізаваная эмблема фестываля з бела-чырвона-белым сцягам і нотным станам. Унізе надпіс "Бараньскія музыкі – 92" Мастак С. Варабьеў.
Выраблены: ДПФ "Лёс" г. Барань.



**№22** 1970 г., 41 х 59 мм.; пластмаса, напыленне металу пад пазалоту (бронзу).
Рэльефная выява крэйсера "Аўрора" і ў верхняй частцы сцяг з надпісам "Октябрь", унізе – "1917".
Выраблены: завод "Чырвоны Кастрычнік" г. Барань.



# Беларуская энергетыка




*Значкі з калекцыі А. Сярожкіна*

Газета "Беларускі калекцыянер", выдаецца з 1990 г.
Рэдактар: *Алесь Сярожкін.*
Рэдакцыйная калегія: *Юры Санько, Алег Граблеўскі.*
Вёрстка: *Сяргей Марусенка*

Пры перадруку спасылацца на "Беларускі калекцыянер". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.
Газета выдаецца пры дапамозе Цэнтра Філона Кміты.

**Адрас для допісаў:**
Сярожкін А. М.
211030, г. Орша – 9, п/с 46,
Беларусь.

Наклад **299** асобнікаў.

Падпісана ў друк 16.02.2005 г.